


ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 22 (379) | ГОД VIII | 2 ЧЭРВЕНЯ 1963 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.

# КАНЦЭРТ ДРУЖБЫ

13 мая г.г. у Драматычным Тэатры ў Варшаве адбыўся канцэрт калектываў, прымаючых удзел у Першым Агульнапольскім фестывалі аматарскіх тэатральных калектываў нацыянальных меншасцей.

Канцэрт выклікаў вялікую цікавасць грамадскасці Варшавы, якая ўпершыню мела магчымасць пазнаёміцца з дасягненнямі ў гэтай галіне нацыянальных меншасцей, пражываючых у Польшчы.

Адкрываецца заслона. На сцэну з песняй «Марш дружбы» Т. Сыгетынскага ўваходзяць удзельнікі канцэрта.

Перад гледачамі раскрываецца шматкалёрная галерэя нацыянальных шыкаў. Публіка сустракае самадзейнікаў бурнымі апладысментамі, з нецярплівасцю чакаем выступленняў. Хвалюемся за беларускі калектыў, які будзе выступаць пятым.

Вядома, самадзейнікі з Левак, Бельскага павета, першы раз выступаюць на сталічнай сцэне. Як жа не хвалявацца за іх? Толькі і на гэта няма часу. Пачынаецца канцэрт. Прыгожая грэчынка спявае сваю народную песню. Не разумеем слоў, але адчуваем тугу ў гэтай песні па далёкай і сонечнай радзіме, якую яна вымушана была пакінуць.

Грэчаскі калектыў выступіў з п'есай «Кароль і сабака» сучаснага драматурга Спыраса Маляса, і трэба прызнаць, што дасканала адлюстраваў атмасферу старажытнай Грэцыі.

З далёкай старажытнасці вырывае нас руская народная песня «Званочак», і бачым гогалеўскую «Жаніцьбу» ў выкананні рускага калектыва з Варшавы.

Шкада, што замала часу прызначана на выступленні калектываў. Мы пабачылі толькі ўрыўкі з гэтай цікавай п'есы, а ўжо чуецца літоўская песня, і на сцэне паяўляюцца ў авечых кажухах літоўскія ваякі, на якіх нападаюць крыжаносцы.

П'еса славіць адвагу літоўцаў у барацьбе з захопнікамі крыжаносцамі. І зноў змена настрою. Салісты спяваюць славацкую народную песню, і бачым папулярную ў славакаў п'есу «Каменны ходнік» Фр. Урбанка. Пасля перапынку выступіў украінскі калектыў з Пшэмысля. Паказаў ён музыкальную пастаноўку «Каза-дзераза». Падзеі адбываюцца пры акампаніяменце дзіцячага аркестра. Ролі выконваюць дзеці. Усё гэта само па сабе выдзяляе украінцаў сярод другіх калектываў. За украінскім калектывам прыходзіць чарга на беларусаў.

Вядомыя ва ўсіх вёсках салісты эстрады «Лявоніха» выконваюць песні. Аляксандр Каліноўскі «Кумачку», дуэт Люба Томчык і Васіль Кардзюкевіч «Беларускія частушкі».

(Працяг на стар. 7)



— БУДУ ТРАКТАРЫСТАМ.

Фота: Ю. Рыбінскі

НАСУСТРАЧ IV З'ЕЗДУ БГКТ

# Нельга забываць аб культуры

МАРЦІН ПАХВІЦЭВІЧ, член праўлення гуртка БГКТ у Мілейчыцах.

У перадз'ездаўскай дыскусіі на старонках «Нівы» многа гаворыцца аб сельскагаспадарчай асвеце, як аб далейшым, так сказаць, галоўным напрамку дзейнасці нашага Таварыства. На маю думку гэта правільныя выказванні. Сельская гаспадарка ў нашым беларускім асяроддзі ўсё яшчэ з'яўляецца далёка адсталай у параўнанні з такімі паветамі як Высока Мазавецкі ці Ломжынскі, не гаворачы ўжо аб такіх ваяводствах як Познанскае ці Быдгаскае. Несумненна, што ў справах развіцця сельскагаспадарчай вытворчасці адно з перадавых месц займае сельгасасвета. А з ёю не заўсёды ў нас так, як павінна быць.

Вось хаця б нашыя Мілейчыцы. Тут налічваецца каля 300 гаспадароў. Людзі ў асноўным жывуць толькі з сельскай гаспадаркі. Што ж у нас змянілася ў сельскагаспадарчай вытворчасці за гады народнай улады?

На нашы палі, так сказаць, прышла сельскагаспадарчая тэхніка. Сельгасгурток, які існуе ў Мілейчыцах (налічвае ён 80 гаспадароў), мае ўжо 5 трактараў з поўнымі камплектамі сельгасмашын. Большасць мілейчыцкіх гаспадароў карыстаецца гэтай сельгастэхнікай. Але далёка не ўсе. Чаму? Бо не ўсе адпаведна падрыхтаваны да гэтага. У Мілейчыцах, тыпова сельскагаспадарчай мясцовасці, за гады народнай улады не было арганізавана ніводнага сельскагаспадарчага курса, ніводнай нават, так сказаць, фаховай гутаркі, на сельскагаспадарчыя тэмы. Ведаем, якую вялікую ролю ў павышэнні ўраджайнасці палёў мае адпаведная барацьба з пустазеллем і са шкоднікамі раслін. Але хто ў нас надае гэтай праблеме вялікае значэнне? Навейшая машына «апрысківач» да хімічнай барацьбы са шкоднікамі раслін у нашым сельгасгуртку стаіць амаль зусім невыкарыстана. Многа яшчэ гаспадароў, побач з сеялкай, сеюць з традыцыйнай хусты, не ведаюць што, дзе і калі карысней вырошчваць.

Гурток БГКТ у Мілейчыцах не цікавіўся гэтымі справамі. Мне здаецца, што менавіта гурток мог бы ў гэтым многа зрабіць. Зразумела, пры адпаведнай дапамозе і Павятовага Аддзела і Галоўнага Праўлення. Дапамагчы можна перш за ўсё ў форме абслугоўвання гуртка адпаведнымі спецыялістамі па сельскай гаспадарцы, нейкімі сістэматычнымі дакладамі на сельскагаспадарчыя тэмы. Пры Галоўным Праўленні таварыства існуе лектарская група. Чаму ж нікога на працягу 7 год мы не бачылі ў Мілейчыцах? На добрую справу гурток наш мог бы нямала зрабіць і ў справах сельскагаспадарчай культуры. Гляньма толькі, як выглядаюць нашыя панадворкі, хаты, гаспадарчыя пабудовы. Балаган такі, што носа не ўткнеш. Дарэчы, было б гуртку запачаткаваць барацьбу і з гэтым.

Вядома, справы сельгасасветы вельмі ў нас важныя, без

(Працяг на стар. 5)

ТАМ, ДЗЕ РАСЛО ПУСТАЗЕЛЛЕ

# СІРАТА ЗНАЙШЛА ГАСПАДАРА

Зямлю слушна называюць маткай - карміцелькай. А там, у наваколлі Крынак, Сакольскага павета, ляжала асірацеўшай зямлі звыш 350 гектараў. Людзі па-рознаму прабавалі яе выкарыстоўваць. Найчасцей аднак пасвілі там кароў навакольныя сяляне.

Тым часам у краіне ўсё часцей і штораз больш рашуча гаварылася аб загаспадараванні аблогаў. Вочы дзеячоў звярталіся ў бок сельгасгурткоў, а на канферэнцыях і ў газетах паявіліся першыя звесткі аб новых сельскагаспадарчых прадпрыемствах — аб згуртаванні сельгасгурткоў (Ośrodek Rolny Kółek Rolniczych).

Крынкаўскія актывісты моцна ўхапіліся за гэтую новую ідэю. Пры выдатнай дапамозе ваяводскіх і павятовых улад незадоўга, 13 верасня 1961 года, яна пераўтварылася ў канкрэтны жывы кшталт. **У Крынках нарадзілася згуртаванне сельгасгурткоў.** Арганізавалася яно з аб'яднання гурткоў у Крынках і Нетупі, а да іх як роўнапраўны член далучыўся яшчэ Крынкаўскі ГС. Праўленне згуртавання ўзначаліў Міхась Шуткевіч, яго намеснікам выбралі Рыгора Міклашэвіча, а сакратаром праўлення стаў Антон Ганацкі. Такім чынам крынкаўская цаліна знайшла свайго гаспадара, перастала быць сіратой.

Згуртаванне пачынала сваё жыццё ад нічога. Не было ніякіх машын, ніякіх сельгаспадарчых прыладаў, ні будынкаў, ні збожжа. Была аднак энергія і ахвота дзеячоў ды новая ідэя, якая давала адзіную ў тых умовах магчымасць карыснага загаспадаравання ялавай дагэтуль зямлі.

Асабліва патрэбны былі крынкаўцам грошы. На скромны капіталік, які ўтварыўся з уласных членскіх узносаў, згуртаванне жыць не магло. Яго страўнік патрабаваў шмат большай сумы. І тут крынкаўскаму згуртаванню па-сяброўску працягнуў руку сельскагаспадарчы банк, прадстаўляючы да выкарыстання шматлікія тысячы злотых дзяржаўнага фонду развіцця сельскай гаспадаркі ды на дадатак — велізарную абору, якая асталася пасля распа-

(Працяг на стар. 4)

## Міхась Забэйда—Суміцкі ў Беларусі

Слаўны беларускі спявак Міхась Забэйда-Суміцкі, які пастаянна жыве ў Празе, прыехаў на гастролі ў Беларусь. Як паведамляе савецкі друк, Беларусь сустрэла Забэйду як самага дарагога госця. Яго канцэрты выклікалі сярод беларускай гамадскасці зразумелае зацікаўленне і праходзяць з вялікім поспехам.

# ПАЛІТЫЧНЫЯ ІМКНЕННІ АФРЫКІ

У сталіцы Ефіопіі Адыс-Абебе працягвалася ў мінулым тыдні канферэнцыя кіраўнікоў афрыканскіх дзяржаў. Гэта была, уласна кажучы, першая сустрэча афрыканцаў на вышэйшым узроўні з таго часу, калі большасць дзяржаў гэтага кантынента атрымала незалежнасць.

Найбольш часу прысвечана пытанню адзінства афрыканскага кантынента. З найбольш смелымі прапановамі выступіў прэзідэнт Ганы Нкрумах. Запрапанаваў ён утварэнне саюза афрыканскіх дзяржаў з цэнтральным урадам, супольнай замежнай палітыкай, эканомікай, валютай і адзінай сістэмай абароны.

— Усялякія формы не шчыльнага саюза, — сцвердзіў Нкрумах, — давядуць Афрыку да такой самай сітуацыі, якая пануе ў Лацінскай Амерыцы, дзе дзяржавы нягледзячы на свой стогадовы перыяд незалежнага існавання і надалей з'яўляюцца аб'ектамі каланіяльнай эксплуатацыі. На думку прэзідэнта Ганы толькі моцнае адзінства запэўніць эканамічны дабрабыт і поўнае вызваленне ад каланіялізму».

Пазіцыю Нкрумаха падтрымаў прэзідэнт Гвінеі Секу-Турэ і яшчэ некалькі кіраўнікоў афрыканскіх дзяржаў. Большасць выступіла менш ці больш рашуча супроць уніі. Характэрнай рысай з'яўляецца факт, што наймацней супроць гэтага адзінства выступалі кіраўнікі дзяржаў, сімпатызуючых заходнім дзяржавам. Напрыклад, прэзідэнт Тунезіі Бургіба сцвердзіў, што «афрыканскае адзінства знаходзіцца яшчэ на этапе ідэалу...» З падобнымі думкамі выступалі правадыры дзяржаў цэнтральнай Афрыкі, якая была ў мінулым французскай калоніяй. Адказ ад шчыльнага саюза вынікае зрэшты не толькі з празаходняй палітыкі нейкай дзяржавы (такіх дзяржаў маем нямнога). Ён хутчэй выкліканы супярэчнасцямі паміж паасобнымі краінамі як вынік тэрытарыяльных дамаганняў і эканамічных розніц. Аб гэтым гаварыў прэм'ер Федэрацыі Нігерыі Балеба.: «Не будзе адзінства дагэтуль, пакуль некаторыя афрыканскія дзяржавы будуць падтрымоўваць падрыўную дзейнасць, накіраваную супроць іншых дзяржаў.» Гэта быў намёк у адносінах да Ганы, якой урад вельмі востра асуджае рэакцыйныя праявы ў розных краінах. Прынята ў такіх умовах у Адыс-Абебе Хартыя Афрыкі не абвяшчае ўтварэння суцэльнай дзяржавы гэтага кантынента. Заключае яна аднак пастановы, якіх здзяйсненне можа прынесці афрыканцам вялікія палітычныя і гаспадарчыя карысці.

Хартыя паклікала да жыцця Арганізацыю адзінства Афрыкі, на чале якой будуць стаяць кіраўнікі незалежных дзяржаў. Савет міністраў гэтай арганізацыі будуць складаць міністры замежных спраў. З гэтага вынікае, што асноўная мэта арганізацыі — гэта ўстанаўленне агульнай для цэлай Афрыкі замежнай палітыкі. Таксама супольна будуць вырашацца непаразуменні паміж афрыканскімі краінамі. Гэта ўсё, несумненна, пэўны крок у напрамку адзінства, аднак не так вялікі, як гэтага хацеў Нкрумах.

Найбольшую гістарычную вартасць Хартыі Афрыкі трэба бачыць не ў дасягненні палітычнага адзінства дзяржаў, а ў прыняцці рэвалюцыйных рашэнняў, накіраваных на ліквідацыю каланіялізму і ўзмацненне нацыянальна-вызваленчай барацьбы на залежных тэрыторыях.

Пастаноўлена стварыць спецыяльны фонд дапамогі для вызваленчых рухаў, пастаноўлена таксама высылаць добраахвотнікаў у партызанскія атрады ў Анголе, Мазамбіку, Паўднёвай Радэзіі і ў другіх калоніях; будуць байкатавацца каланіяльныя дзяржавы як, напрыклад, Партугалія і тыя, у якіх падвяргаюцца праследванням негры. Афрыканскія дзяржавы выступяць з канкрэтнымі прапановамі аб ліквідацыі калоній у ААН.

Канферэнцыя ў Адыс-Абебе прыняла некалькі прапаноў, якія датычаць развіцця эканамічнага супрацоўніцтва паміж афрыканскімі краінамі. Гэтыя прапановы маюць давесці да ўтварэння супольнага рынку Афрыкі.

Вялікае значэнне для цэлага свету мае прынята аднагалосна рэзалюцыя аб Афрыцы як безатамнай стрэфе. Гэты факт сведчыць аб тым, што на чорным кантыненце ўмацоўваецца ідэя актыўнай нейтральнасці і міру.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**

## З КАНФЕРЭНЦЫІ АДДЗЕЛА БГКТ У МІХАЛОВЕ

# ДУМКІ НЕ ТОЛЬКІ МАЕ

Наколькі я памятаю, праз увесь час дзейнасць Беларускага грамадска - культурнага таварыства заўсёды найслабей праяўлялася, менавіта, на тэрыторыі Беластоцкага павета. На першы погляд здаецца, што суседства ваяводскага горада Беластока павінна прычыніцца да асабліва ажыўленага арганізацыйна - асветнага жыцця ў вёсках. Аднак наглядаем нешта адваротнае.

Беларускае культурнае жыццё сканцэнтравана ўсяго ў раёне Міхалова і Юшкавага Груда. Там, перад усім, існуе большасць гурткоў БГКТ і мастацкіх калектываў. Туды звернута ўвага Павятовага Аддзела БГКТ. У 1961 годзе мелі месца спробы пашырыць працу беларускага таварыства на Ялоўшчыну і Гарадоччыну. Аднак тагачасны інструктар Іван Азябла не знайшоў падтрымкі з боку актыву, і ўсё засталося па-ранейшаму.

Факт, што ў суседнім, Сакольскім павеце, таварыства пашырыла сваю дзейнасць не менш, як у тры-чатыры разы, прымушае задумацца над істотнымі прычынамі мізэрных тэмпаў гэтай дзейнасці ў Беластоцкім павеце. Прычым, трэба ведаць, што Сакольшчына ўяўляе сабою велізарную рэлігійна - нацыянальную мешаніну, чаго наогул мала сустракаеш у Беластоцкім павеце.

Павятовы Аддзел БГКТ на Беластоцкі павет знаходзіцца ў Міхалове. Хіба не будзе перабольшаннем, калі скажу, што мы часта забываемся аб тым, што Міхалова — гэта не Саколка ці Гайнаўка. Гэта хутчэй за ўсё вялікая вёска ды столькі. Адсюль значна лягчэй і зручней даехаць у Беласток чымсьці ў Ялоўку ці нават Гарадок. А, увогуле, немагчыма дабрацца без фурманкі ў Мастаўляны, Коматаўцы або Навасёлкі. Бездарожыца! Зрэшты, маладому інструктару дык і прайсціся не грэх пяць-дзесяць кіламетраў, але нашто здалася гэткая хадзьба пяцідзесяцігадоваму актывісту? Гэта адно. Па-другое, адкуль жа знайсці рэзервы актыву ў Міхалове, калі нат' у такім Бельску ледзь зводзім канцы з канцамі, хаця жыве там не адна-дзве тысячы людзей!?

У Беластоцкім павеце налічваецца 260 членаў нашага Таварыства згуртаваных у 14 гуртках (школ з беларускай мовай 34). Няма патрэбы спецыяльна высняць, што гэта з'яўляецца проста толькі асабістай заслугай інструктароў (Год таму назад было 11 гурткоў БГКТ). Зразумела, уся бяда ў тым, што інструктар працуе адзін, ніхто не памагае яму. Таму ён не можа тварыць новых гурткоў, якіх не змог бы ўжо абслужыць і кіраваць імі. Гаворыцца, адзін у полі не воін...

Штораз больш упэўніваюся ў перакананні, што Міхалове патрэбна **асаблівa** клапатлівая апека арганізацыйнага і матэрыяльнага парадку. У сувязі з дрэнным даездам у глухія куткі, якіх у гэтым павеце аж замнога, неабходна падвоіць выкарыстанне транспартнага парку ГП БГКТ для абслугі бягучых патрэб Аддзела. Прытым, пара ўрэшце зацікавіцца выхоўваннем маладых актывістаў (на курсах Галоўнага Праўлення БГКТ рэдка відаць міхалаўчан!). Тады

(Працяг на стар. 7)




■ 26 мая ў Беластоку адбылося пленум Галоўнага праўлення БГКТ. Пленум зацвердзіў даклад на з'езд і абмеркаваў усе справы звязаныя з ім.

■ Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку ў сувязі з днямі кніжкі і друку ў Клубе Міжнароднай кніжкі і друку, а таксама ў памяшканні ГП БГКТ арганізаваў выстаўку і продаж часопіса «Нівы» і кніжак выданых ГП БГКТ.

■ Праўленне аддзела БГКТ у Гайнаўцы на апошнім сваім пасяджэнні выбрала новага старшыню ў асобе настаўніка школы № 1 Алеся Іванюка.

■ На апошнім пасяджэнні праўлення аддзела БГКТ ў Беластоку зацверджана даклад на гарадскую канферэнцыю БГКТ, якая адбудзецца 9 чэрвеня.

■ 24 мая ў Варшаўскім аддзеле БГКТ адбылася сустрэча актыву аддзела з дэлегацыяй Беларускага таварыства культурнай сувязі з заграніцай з Мінска.

## Увага кандыдаты конкурсу на найлепш выкананую беларускую песню!

На просьбу нашых чытачоў ГП БГКТ прадоўжыла тэрмін дасылання заявак на ўдзельніцтва ў Конкурсе беларускай песні да 16 чэрвеня г.г. Аб умовах конкурсу мы ўжо інфармавалі 5 і 12 мая.

Прыпамінаем, што кожны ўдзельнік павінен падрыхтаваць тры беларускія песні. **Беларускія!** Як паказваюць дагэтуляшнія заяўкі, шмат хто не разабраўся ў характары конкурсу, а ў ім жа выразна падкрэслівалася, што гэта мае быць менавіта конкурс на найлепей выкананую **беларускую** песню.

## Спорт

Як вядома веласіпедны марафон закончыўся падвойнай перамогай веласіпедыстаў ГДР, якія на ўласнай тэрыторыі паказалі клас. Апошняя Велагонка яшчэ раз пацвердзіла ісціну, што ў гэтай галіне спорту (ды ці толькі ў гэтай) без вялікіх індывідуальнасцей няма чаго шукаць шчасця.

Не паспелі адгрымець трыумфальныя гукі ў сталіцы ГДР, як пачалося не менш хвалюючае мерапрыемства. Гэтым разам — баксёрскае. У Маскву з'ехаліся найлепшыя еўрапейскія прадстаўнікі скуранай пальчаткі аспрэчваць званні чэмпіёнаў нашага кантынента. Пасля першых няўдач нашых баксёраў у нашым друку паявілася шмат гаворкі аб ролі лёсу. Тут ён, сапраўды, адыгрывае не малую вагу, але, што самае цікавае, сябруе ён толькі з сільнымі, таленавітымі і дасканала падрыхтаванымі баксёрамі.

У футболе надзвычайных здарэнняў не адбылося. Беластоцкая ліга ў асноўным закончыла гульні. Элцкі Мазур заваяваў права змагацца за пашпарты ў II лігу, але на гэтым полі не мае ён ніякіх шанцаў. Значыць, усё застаецца на сваіх месцах. Тры матчы мінскіх дынамаўцаў ў Польшчы не прынеслі ім поспеху. Пасля разгрому, які нанесла ім жэшаўская Сталь, беларусы згулялі яшчэ з II-лігавай Краковіяй (2:3) і саснавецкім Заглэмбем (2:3). Спартыўныя наглядальнікі падкрэсліваюць хуткасць і прыгожую гульню мінскіх футбалістаў, але адначасова звяртаюць увагу на невялікую вынаходлівасць нападаючых. Цікава, якія вывады зробяць мінчане?

**Аут**




Пад канец працоўнага дня механіка Ота Шталекера паклікалі да тэлефона. Размова была кароткай. Субяседнікі абмяняліся некалькімі нявіннымі фразамі.

Шталекер узначальваў адну з падпольных антыфашысцкіх пяцёрак, якія дзейнічалі ў горадзе. Члены пяцёрак ведалі толькі свайго кіраўніка і нікога больш. Толькі кіраўнікі пяцёрак мелі доступ да Шуберта.

І вось цяпер гардэробшчык бара «Нібелунгі» Ганс Дзітрых, член пяцёркі Шталекера, паведаміў па тэлефону, што павінен неадкладна сустрэцца са Шталекерам.

Шталекер пайшоў на сустрэчу з Дзітрыхам проста з завода. Увайшоўшы ў бар, ён здаў шапку гардэробшчыку. Разам з нумарком у руках Шталекера апынулася запіска.

144

— Ідзі ў прыбіральню, — шапнуў Дзітрых, — Там і прачытаеш.

Шталекер так і зрабіў. Прачытаўшы паперку, парваў яе і спусціў у каналізацыю. Так, паведамленне было сапраўды важнае. Робячы спакойны выгляд, ён прайшоў у залу, заказаў куфаль піва, выпіў і, не спяшаючы, накіраваўся да выхаду.

Звяртаючы шапку, Дзітрых шапнуў:

— Цягнеш хвост!

Шталекер падыйшоў да люстра, надзяваючы шапку, агледзеў залу. Адзін з наведвальнікаў трымаў у руках «Остбургер цайтунг».

— Той, што з газетай? — спытаў Шталекер.

— Так...

Адно да другога! Шталекеру неадкладна трэба было сустрэцца з Шубертам. Але як адвязацца ад назіральніка?.. Ага, Вілі, здаецца, цяпер у гаражы!

Шталекер меў на думцы іншага члена сваёй пяцёркі — шафёра грузавіка, які некалькі тыдняў назад упершыню даставіў Аскера да Шуберта.

Пакінуўшы бар, Шталекер пайшоў на завод. Выйшаў і чалавек, які чытаў газету. Гэта быў штурмфюрэр Адольф Торп. Ён «давёў» механіка да завадскіх варот, упэўніўся, што той увайшоў у іх, і пачаў чакаць непадалёку. Торп ведаў, што Шталекер ужо адпрацаваў і, значыць, на заводзе не затрымаецца.

Мінут праз дваццаць з завадскіх варот выехаў вялікі грузавік. Машына прайшла міма Торпа, які не звярнуў на яе ніякай увагі. На падлозе кабіны, сагнуўшыся, сядзеў Шталекер.

145

Неўзабаве ён ужо расказваў Оскару Шуберту аб тэлефоне Дзітрыха, аб сустрэчы з ім у бары і атрыманай запісцы.

Дзітрых паведамляў аб гутарцы, якая адбылася сёння раніцай паміж ім і яго сябрам — кладаўшчыком завода «Ганс Бемер» Крэбсам. Той пад вялікім сакрэтам расказаў яму аб размове з шафёрам Губэ.

— Ну і што ж? — спытаў Шуберт.

— А тое, што, як сцвярджае Крэбс, зварачных апаратаў у яго ніколі і не было!

Шуберт падняў галаву.

— І апаратаў не было, — працягваў Шталекер, — і ваенныя не прыходзілі за імі. Вось якая гісторыя!

— Працягвайце, Ота. — Шуберт варухнуў плячыма, быццам яму стала холадна.

— Крэбс прызнаўся Дзітрыху: не так даўно яго выклікалі да дырэктара завода. Але Кюметца ў кабінеце не аказалася. За сталом сядзеў незнаёмы чалавек. Ён даў падпісаць бланк абавязацельства аб нераспаўсюджванні дзяржаўнай тайны. Крэбс спрабаваў пярэчыць, але яму паказалі пасведчанне супрацоўніка абвера. Субяседнік сказаў: «Магчыма здарыцца, што нехта спытае, ці не даводзілася вам выдаваць два зварачныя апараты, ноччу, па запісцы дзяжурнага інжынера. Адказаць трэба: так, выдаваў, і атрымалі іх нейкія ваенныя».

(Працяг на стар. 7)

146



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

